выпадку кнопкі кіравання гучнасцю спалучаныя з падлучанай аўдыё-прыладай.

## FollowMe TV

З дапамогай функцыі FollowMe TV Вы можаце перадаваць бягучыя тэлеперадачы на мабільную прыладу. Усталюйце на мабільную прыладу прыкладанне Smart Center. Запусціце прыкладанне.

Для атрымання больш падрабязнай інфармацыі па выкарыстанню гэтай функцыі глядзіце інструкцыі па прыкладанню, якое Вы выкарыстоўваеце.

Заўвага: Гэта прыкладанне не сумяшчальна з усімі мабільнымі прыладамі.

## FollowMe TV to DMR

Гэтая функцыя дазваляе ажыццяўляць прагляд струменевага відэа з Вашага тэлевізара на іншым тэлевізары або мабільнай прыладзе з дапамогай адпаведных прыкладанняў (напрыклад, UPnP-Universal Plug and Play-прыкладання накшталт BubbleUPnP). Уключыце функцыю FollowMe TV to DMR, і пачнецца зрух па часе. Націсніце чырвоную кнопку, і з'явіцца меню выбару прылады. Абярыце патрэбную прыладу і націсніце OK.

***Заўвага**: Функцыі FollowMeTV і FollowMe TV to DMR працуюць сумесна з функцыяй PVR, таксама мяркуецца наяўнасць падлучанага USB-накапляльніка з фарматам FAT32 і дастатковай колькасцю вольнай памяці на ім. Каналы HD не падтрымліваюцца, і абодзве прылады павінны быць падлучаныя да адной і той жа сеткі.*

## Характарыстыкі і функцыі тэлевізара

| Змест Меню Выявы | |
|---|---|
| **Наладкі 3D** | Націсніце для прагляду наладак 3D |
| **Рэжым** | Вы можаце змяніць рэжым выявы згодна з вышымі пажаданнямі і патрабаваннямі. Можа быць усталяваны адзін з наступных рэжымаў выявы: **Кіно**, **Гульня**, **Спорт**, **Дынамічны** і **Натуральны**. |
| **Кантрастнасць** | Рэгуляванне светлых і цёмных параметраў экрана |
| **Яркасць** | Рэгуляванне ўзроўня яркасці экрана. |
| **Выразнасць** | Рэгуляванне ступені выразнасці аб'ектаў, якія адлюстроўваюцца на экране. |
| **Колер** | Наладка і рэгуляванне колераў. |
| **Рэжым энергазберажэння** | Для ўсталявання Рэжыму энергазберажэння, такога як Эка, Адключэнне малюнкаў і Адключэнне.<br>(Пры выбары Дынамічнага рэжыму, Рэжым энергазберажэння аўтаматычна адключаецца.) |
| **Падсвятленне** | Гэты параметр вызначае ўзровень падсветкі. Пры выбары энергазберагальнага рэжыму Эка функцыя падсветкі будзе адключаная. Функцыя падсветкі не можа быць актываваная ў рэжыме VGA, Media Browser альбо пры выбары рэжыму выявы Гульня. |
| **Падаўленне шумоў** | Калі пры слабым сігнале адлюстраванне выявы суправаджаецца перашкодамі, скарыстайцеся рэжымам **Падаўлення шумоў** для памяншэння перашкод. |
| **Прасунутыя наладкі** | |
| **Дынамічная кантрастанасць** | Вы можаце змяніць Дынамічную кантрастнасць да неабходнага значэння. |
| **Колеравая тэмпература** | Усталёўвае пажадананы колеравы тон. |
| **Павелічэнне выявы** | Усталёўвае пажаданы памер выявы з дапамогай меню павелічэння выявы.<br>*Заўвага: Опцыя Аўта (толькі ў рэжыме Scart са SCART PIN8 пры пераключэнні высокага або нізкага напружання)* |
| **Movie Sense** | Націсніце кнопку "улева" / "управа", каб усталяваць рэжым Movie Sense нізкі, сярэдні, высокі ц і выключаны. Калі будзе ўключаны рэжым Movie Sense, будзе выканана аптымізацыя наладак відэа тэлевізару для адлюстравання рухаючыхся выяў, каб забяспечыць лепшую якасць і выразнасць.<br>Калі опцыя Movie Sense будзе ўсталявана як нізкая, сярэдняя ці нізкая, будзе даступная дэма-версія опцыі Movie Sense. Калі будзе абрана адна з гэтых опцый, і будзе націснута кнопка ОК, то будзе ўключана дэма-версія рэжыму. Калі будзе ўключана дэма-версія рэжыму, экран будзе падзелены на дзве часткі, на адной з якіх будзе адлюстроўвацца функцыя movie sense, а на другой - стандартныя наладкі экрана тэлевізару. |
| **HDMI True Black** | Пры праглядзе з крыніцы HDMI, гэтая функцыя будзе даступнай у Меню Наладак выявы. Вы можаце выкарыстоўваць дадзеную функцыю для павелічэння цемнаты выявы. |
| **Рэжым Кіно** | Фільмы запісныя з рознай колькасцю кадраў у секунду ў адрозненні ад звычайных тэлівізійных праграм. Актывізуйце гэты рэжым, калі вы глядіце фільмы для адлюстравання хуткіх сцэн больш выразна. |
| **Адценне вокладкі** | Адценне вокладкі можа быць змененым у прамежку ад -5 да 5. |
| **Змены колеру** | Адрэгулюйце адценне згодна са сваімі пажаданнямі. |
| **RGB** | Адрэгулюйце адценне згодна са сваімі пажаданнямі. |
| **Скідванне** | Скідванне наладак выявы і ўсталяванне завадскіх нладак (за выключэннем Рэжыму Гульні) |
| **Аўтапазіцыя (у рэжыме ПК)** | Аўтаматычная аптымізацыя дысплея. Націсніце ОК для аптымізацыі. |
| **Пазіцыя H (у рэжыме ПК)** | Гэты пункт зрушвае выяву ў правы ці левы бок экрану па гарызанталі. |
| **Пазіцыя V (у рэжыме ПК)** | Гэты пункт зрушвае выяву па вертыкалі да верхняй альбо ніжняй часткі экрану. |
| **Фаза сінхрасігналу (у рэжыме ПК)** | Фаза сінхрасігналу дазваляе пазбавіцца перашкод у выглядзе вертыкальных палос у пунктах інтэнсіўнай перадачы (адлюстраванне электронных табліц, абзацаў і тэкстаў з малым шрыфтом. |
| **Фаза (у рэжыме ПК)** | У залежнасці ад наладак і частотнага сканавання, якія вы ўводзіце ў тэлевізар, выява на экране можа быць больш цьмяуай альбо з большай колькасцю перашкод. У такім выпадку вы можаце скарыстацца гэтай функцыяй для атрымання больш выразнай выявы метадам спроб і памылак. |
| *Падчас працы ў рэжыме VGA (ПК) некаторыя пункты меню выявы будуць недаступнымі. Замест гэтага наладкі рэжыму VGA будуць дададзеныя ў Наладкі Выявы падчас парцы ў рэжыме ПК.* | |

# Характарыстыкі і функцыі тэлевізара

| Змест Меню Гука | |
|---|---|
| **Гучнасць** | Рэгулюе ўзровень гучнасці. |
| **Эквалайзер** | Абярыце рэжым эквалайзеру. Карыстальніцкія наладкі могуць ажыццяўляцца толькі ў карыстальніцкім рэжыме. |
| **Баланс** | Дадзеная наладка выкарыстоўваецца для павелічэння балансу левай альбо парвай калонкі. |
| **Навушнікі** | Наладка гучнасці для навушнікаў. |
| **Гукавыя рэжымы** | Вы можаце абраць гукавы рэжым (калі абраны канал гэта падтрымлівае). |
| **AVL (Аўтаматычнае абмежаванне гучнасці)** | Гэтая функцыя памяншае розніцу гучнасці паміж рознымі каналамі. |
| **Навушнікі/Лінейны выхад** | Пры падлучэнні вонкавга ўзмацняльніка гуку да вашага тэлевізара праз раз'ём для навушнікаў, вы можаце ўсталяваць гэты параметр у пазіцыі "Лінейны выхад". Пры далучэнні да тэлевізара навушнікаў, усталюйце гэты параметр у пазіцыі "Навушнікі". |
| **Дынамічнае ўзмацненне басоў** | Уключае або выключае ўзмацненне басоў. |
| **Сістэма прасторавага гучання** | Рэжым прасторавага гучання можа быць абраны як Укл. і Выкл. |
| **Лічбавы выхад** | Наладка тыпу лічбавага аўдыявыхаду. |
| **Змест Меню наладак** | |
| **Умоўны доступ** | Кіраванне модулямі ўмоўнага доступу пры іх наяўнасці. |
| **Мова** | Наладка моўных параметраў (можа змяняцца ў залежнасці ад абранай краіны) Пераважныя і бягучыя наладкі застаюцца даступнымі. Бягучыя наладкі могуць быць змененымі толькі пры падтрымцы каналу вяшчання. |
| **Бацькоўскія наладкі** | Увядзіце парвільны пароль для змены бацьклўскіх наладак. З дапамогай гэтай функцыі меню вы лёгка можаце наладзіць блакіроўку меню, блакіроўку ўзроставым цэнзам (можа змяняцца ў залежнасці ад абранай краіны) , а таксама блакіроўку ад дзяцей. Таксама вы можаце ўвесці новы нумар ПІН-коду.<br>Пры ўключэнні блакіроўкі ад дзяцей, тэлівізарам можна кіраваць толькі з дапамогай пульта дыстанцыйнага кіравання. У гэтым выпадку кіраванне тэлевезарам праз панэль кіравання будзе недаступным.<br>***Заўвага:** ПІН-кодам па змаўчанні з'яўляецца **0000** або **1234**. ІКалі вы ўсталявалі ПІН-код (патрабуецца ў залежнасці ад выбару краіны) падчас **Першай усталёўкі,** выкарыстоўвайце дадзены ПІН-код.* |
| **Таймеры** | Усталёўвае таймер для выключэння тэлевізара праз некаторы час. Усталёўвае таймер для абраных праграм. |
| **Канфігурацыя запісу** | Адлюстроўвае меню канфігурацыі запісу. |
| **Дата/Час** | Наладка даты і часу. |
| **Крыніцы** | Уключэнне або выключэнне опцый абранай крыніцы. |
| **Налады спадарожнікавай антэны** | Адлюстраванне налад спадарожнікавай антэны. Падтрымка спадарожнікавай антэны (у залежнасці ад мадэлі) |
| **Наладкі сеткі** | Адлюстроўвае наладкі сеткі. |
| **Netflix (опцыя)** | Вы можаце бачыць Ваш нумар ESN (*) і адключыць функцыю Netflix.<br>(*) Нумар ESN з'яўляецца унікальным ідэнтыфікацыйным нумарам для Netflix, створаным спецыяльна для ідэнтыфікацыі Вашага тэлевізара. |
| **Іншыя наладкі: Адлюстроўвае іншыя параметры тэлевізара, прыдатныя для наладкі** | |
| **Тайм-аўт меню** | Змена працягласці тайм-аўта для экранных меню. |
| **Пошук зашыфраваных каналаў** | Пры ўключэнні дадзенай функцыі ў працэсе пошуку будуць знойдзеныя таксама зашыфраваныя каналы. |
| **HbbTV** | Вы можаце ўключыць або выключыць гэтую функцыю з дапамогай кнопак On ці Off**.** |
| **Блакітны фон** | Уключэнне або адключэнне паказу блакітнага фону падчас слабога сігналу альбо яго адсутнасці. |
| **Абнаўленне Праграмнага Забеспячэння** | Для пераканання ў тым, што ваш тэлевізар мае апошнія прашыўкі. |
| **Версія дадаткаў** | Адлюстроўвае бягучую версію ПЗ. |

# Характарыстыкі і функцыі тэлевізара

| | |
|---|---|
| **Рэжым субцітраў** | Гэтая опцыя выкарыстоўваецца для выбару віду субцітраў, якія будуць адлюстроўвацца на экране (DVB субцітры / TXT субцітры) пры мажлівасці абодвух варыянтаў. Па змоўчанні ўсталяваныя DVB субцітры. Функцыя даступная толькі ў Нарвегіі. |
| **Праблемы з гучаннем** | Дазваляе падлучэнне асаблівых сігналаў, якія дасылаюцца з крыніцы вяшчання. |
| **Аўдыяапісанне** | Аўдыяапісанне – гэта дадатковая гукавая дарожка для сляпых і людзей са слабым зрокам для суправаджэння візуальных сродкаў масавай інфармацыі, уключаючы тэлебачанне і фільмы. Вы можаце выкарыстаць дадзеную функцыю толькі ў выпадку, калі крыніца вяшчання падтрымлівае апісальную гукавую дарожку.<br>Заўвага: Функцыя аўдыяапісання не можа быць выкарыстаная ў рэжыме запісу або ў рэжыме вяшчання, ссунутага ў часе. |
| **Аўтаматычнае выключэнне тэлевізара** | Вы можаце наладзіць значэнне тайм-аўту для функцыі аўтаматычнага выключэння. Калі значэнне тайм-аўту будзе дасягнутым і тэлевізар не будзе выкарыстаным падчас вызначанага часу, тэлевізар пяройдзе ў рэжым чакання. |
| **Пошук у рэжыме чакання (дадаткова)** | Калі пошук у рэжыме чакання быў уключаны, знаходзячыся ў рэжыме чакання тэлевізар будзе шукаць даступныя крыніцы вяшчання. У выпадку, калі ваш тэлевізар знойдзе новы або адсутны канал, на экрне будзе адлюстраванае пытанне, ці жадаеце вы захаваць змены. Спісканалаў будзе абноўлены і зменены пасля гэтага працэсу. |
| **Рэжым "Крама"** | Калі вы дэманструеце тэлевізар у краме, вы можаце абраць дадзены рэжым. Пры ўключаным рэжыме Магазіннага рэжыма некаторыя функцыі тэлевізара будуць недаступнымі. |
| **Media Renderer (DMR)** | Функцыя Візуалізацыя мультымедыя дазваляе перадаваць і выкарыстоўваць файлы, якія захоўваюцца на смартфоне ці планшэтным ПК. Калі ў Вас ёсць смартфон ці планшэтны ПК, сумяшчальны з DLNA, і ўсталяванае адпаведнае праграмнае забеспячэнне, Вы можаце перадаваць/праглядаць фотаздымкі з дапамогай Вашага тэлевізара. Для атрымання больш падрабязнай інфармацыіі глядзіце інструкцыю да вашага сумяшчальнага праграмнага забеспячэння. Функцыя Media renderer не даступная пры выкарыстанні функцыі інтэрнэт-партала. |
| **Рэжым уключэння сілкавання** | Гэты параметр наладжвае функцыю рэжыму ўключэння сілкавання. |
| **Ключ Biss** | Biss - гэта сістэма шыфравання сігналу спадарожнікавага тэлебачання, якая выкарыстоўваецца некаторымі вяшчальнымі каналамі. Калі вам неабходна ўвесці ключ Biss для пэўнай перадачы, выкарыстоўвайце опцыю "Ключ Biss" у меню "Іншыя наладкі". Вылучыце надпіс "Ключ Biss" і націсніце OK, каб увесці ключ для патрабаванай перадачы. (Гэты пункт меню з'яўляецца толькі тады, калі тэлевізар падтрымлівае функцыю спадарожнікавага тэлебачання) |
| **Аддаленае кіраванне** | Уключэнне і выключэнне функцыі аддаленага кіравання. |
| **CEC** | З дапамогай дадзенай налады вы можаце ўключыць або цалкам адключыць функцыю CEC. Націсніце кнопку Улева або Ўправа, каб уключыць або адключыць дадзеную функцыю. |
| **FollowMeTV** | Уключэнне або выключэнне дадзенай функцыі. |
| **FollowMeTV to DMR** | Уключэнне або выключэнне дадзенай функцыі. |
| **Усталяванне і пераналадка Зместу Меню** | |
| **Аўтаматычны пошук каналаў (пераналадка)**<br>**(Калі яна магчымая)** | Адлюстроўвае параметры аўтаматычнай наладкі. Лічбавая антэна: Шукае і захоўвае антэны DVB станцый. Лічбавы кабель: Шукае і захоўвае кабелі DVB станцый. Аналагавыя: Шукае і захоўвае аналагавыя станцыі. Лічбавыя і аналагавыя антэны: Шукае і захоўвае антэны DVB і аналагавыя станцыі. Лічбавыя кабелі і Аналагавыя: Шукае і захоўвае кабелі DVB і аналагавыя станцыі. Спадарожнік: шукае і захоўвае спадарожнікавыя каналы. Падтрымка спадарожнікавай антэны (у залежнасці ад мадэлі) |
| **Ручны пошук каналаў** | Гэтая функцыя можа выкарыстоўвацца для непасрэднага ўводу каналу вяшчання. |
| **Сеткавы пошук каналаў** | Пошук для звязаных у сістэме вяшчання каналаў. |
| **Дакладнай наладка аналагавых каналаў** | Вы можаце выкарыстоўваць гэтую функцыю для дакладнай наладкі аналагавых каналаў. Гэтая функцыя не можа быць выкарыстанай, калі не было захавана ніводнага аналагавага каналу. |
| **Першая ўсталеўка** | Выдаленне ўсіх захаваных каналаў і наладак і вяртанне да завадскіх наладак. |
| **Ачысціць ліст абслугоўвання** | (*) Гэты параметр адлюстроўваецца толькі калі была абраная краіна Данія, Швецыя ,нарвегія альбо Фінляндыя. Скарыстайцеся дадзенай наладкай, каб ачысціць спіс захаваных каналаў. |

## Электронны праграмны гід (EPG)

Некаторыя, але не ўсе, каналы прадастаўляюць інфармацыю аб бягучых і наступных праграмах. Націсніце кніпу "" для прагляду меню EPG.

**Уверх/Уніз/Улева/Управа:** Кіраванне EPG.

**OK:** Адлюстроўвае параметры праграмы.

**INFO (İ):** Адлюстроўвае дэталёвую інфармацыю аб абранай праграме.

**ЗЯЛЁНАЯ:** Пераход да спісу наступных праграм EPG.

**ЖОЎТАЯ:** Пераход да часу наступных праграм EPG.

**СІНЯЯ:** адлюстроўвае параметры фільтрацыі.

(ЗАПІС): тэлевізар будзе выконваць запіс абранай праграмы. Для сканчэння запісу націсніце на кнопку яшчэ раз.

***ВАЖНА**: Для запісу праграмы спачатку неабходна падключыць USB-дыск да вашага ТВ, калі ен адключаны. Затым неабходна ўключыць тэлевізар, каб функцыя запісу стала даступная. Інакш функцыя запісу ня будзе даступная.*

***Заўвага**: Падчас ажыццяўлення запісу нельга змяняць канал на іншы.*

### Опцыі праграм

У меню EPG націсніце кнопку **OK** для ўваходу ў меню "**опцыі передачы**".

#### Абярыце канал

Выкарыстоўваючы гэтую опцыю, у меню EPG вы можаце пераключыцца на абраны канал.

#### Запісаць / Выдаліць Запісаны Таймер

Пасля выбару передачы ў меню **Электроннай праграмы** передач націсніце кнопку **OK**, і адлюструецца экран **Опцыі**. Абярыце параметр "**Запіс**" і націсніце кнопку OK. Пасля гэтай аперацыі запіс будзе запланаваны для абранай парграмы.

Для адмены захаванага запісу абярыце ў спісе гэтую праграму, націснуўшы кнопку **OK**, а пасля абярыце опцыю "**Выдаліць Зап.**" Запіс будзе адменены.

#### Усталяваць таймер / Выдаліць таймер

Пасля выбару передачы ў меню Электроннай праграмы передач націсніце кнопку **OK**, і адлюструецца экран **Опцыі**. Абярыце пазіцыю Усталяваць таймер і націсніце кнопку OK. Вы можаце ўсталяваць таймер для будучых праграм. Для адмены ўжо ўсталяванага таймеру, падсвяціце неабходную праграму і націсніце кнопку **OK**. Пасля абярыце пазіцыю "**Выдаліць Таймер**". Таймер будзе адменены.

***Заўвага**: не магчыма запісаць ці ўсталяваць таймер для двух або больш передач у адзін і той жа часовы інтэрвал.*

## Тэлетэкст

**"" Тэлетэкст - Мікс**: Пры аднаразовым націску ўключае рэжым відэа-тэксту (калі прадастаўляецца вашай станцыяй тэлевяшчання). Для прагляду старонкі з аналагавым тэлетекстам націсніце яшчэ раз. Націсніце паўторна, каб змясціць тэлетэкст над выявай (змешаны). Націсніце яшчэ раз для выхаду з рэжыму телетекста.

**Паказальнік "BACK"**: Выбар класіфікацыйная старонкі тэлетэкста.

**"İ" Раскрыццё інфармацыі**: Паказвае ўтоеную інфармацыю (напрыклад, падказкі ў гульнях).

**Утрымліванне "OK"**: Утрымлівае тэкставую старонку, калі гэта неабходна. Націсніце яшчэ раз для працягу.

**Падкодавыя старонкі**"<"/">": Выбірае старонкі з падкодамі пры іх наяўнасці.

**P+ / P- і лічбы (0-9)**: Выкарыстоўваюцца для выбару старонак.

***Заўвага**: Большасць тэлевізійных станцый выкарыстоўваюць код 100 для класіфікацыйных старонак.*

Ваш тэлевізар падтрымлівае сістэмы **ФАСТТЭКСТ (FASTEXT)** і **TOP-тэкст**. Пры наяўнасці гэтых сістэм старонкі падзяляюцца на групы або тэмы. Калі сістэма **ФАСТТЭКСТ** даступная, раздзелы на старонцы тэлетэкста будуць пафарбаваны ў розныя колеры, іх можна будзе выбраць пры дапамозе каляровых кнопак. Націсніце каляровую кнопку, якая адпавядае Вашаму выбару. З'явяцца кадяолвыя запісы, якія паказваюць каляровыя кнопкі, неабходныя пры наяўнасці **TOP-тэкста.** Пры выкарыстанні "﹀" ці "︿" можна запытаць наступную або папярэднюю старонку адпаведна.

### Лічбавы тэлетэкст (толькі для Велікабрытаніі)

• Націсніце кнопку "". З'явіцца інфармацыя лічбавага тэлетэкста. Кіруйце ім, карыстаючыся каляровымі кнопкамі, кнопкамі курсора і кнопкай OK.

Спосаб кіравання можа адрознівацца ў залежнасці ад зместу лічбавага тэлетэкста. Выконвайце інструкцыі, адлюстраваныя на экране лічбавага тэлетэкста.

Калі вы зноў націсніце кнопку "", ТВ вернецца да трансляцыі тэлебачання.

## Запіс праграмы

***ВАЖНА**: Пры выкарыстанні новага жорсткага дыска USB рэкамендуецца спачатку адфарматаваць дыск з дапамогай опцыі ТВ "адфарматаваць дыск".*

Ваш тэлевізар падтрымлівае запіс каналаў лічбавага вяшчання. Для гэтага USB-накапляльнік павінен быць падлучаны да тэлевізара. Пры

падключэнні накаплянльніка тэлевізар павінен быць выключаны. Затым неабходна ўключыць тэлевізар, каб функцыя запісу стала даступная.

Падлучаная USB-прылада павінна мець свабодны аб'ём памяці не менш за 1 Гб і сумяшчальнасць USB. Інакш будзе адлюстроўвацца паведамленне пра памылку.

Калі хуткасць падключанага USB-дыска недастатковая, запіс можа парушыцца, а функцыя зруху па часе можа быць недаступная.

Файлы запісаных праграм не будуць даступныя для прайгравання на кампутары. Вы можаце прайграць запісы толькі праз ваш ТВ.

Падчас запісу са зрухам па часе можа адбывацца затрымка Lip Sync (сінхранізацыі агучвання).

Тэлевізар можа запісываць праграмы працягласцю да дзесяці гадзін.

Запісаныя праграмы разбіваюцца на часткі па 4Гб.

Запіс праграм высокай выразнасці можа заняць больш месца на USB-дыску ў залежнасці ад дазволу, які выдаецца станцыяй тэлевяшчання. Па гэтай прычыне рэкамендуецца выкарыстоўваць выкарыстоўваць жорсткія дыскі USB для запісу праграм высокай выразнасці (HD).

Нельга вымаць дыск USB / HDD падчас выканання запісу. Гэта можа пашкодзіць далучаную прыладу USB/HDD.

Даступна падтрымка шматлікіх раздзелаў. Падтрымліваецца да 2 розных частак. Калі на дыску ёсць больш як два раздзелы, магчымы збой дыска. Першы раздзел USB-дыска выкарыстоўваецца для гатовых функцый PVR. Таксама ен павінен быць адфарматаваны як першасны раздзел, каб яго можна было выкарыстоўваць для гатовых функцый PVR.

Некаторыя пакеты патокаў могуць не запісвацца з-за праблем з сігналам, таму падчас прайгравання відэа можа часам спыняцца.

Кнопкі запіс, прайграванне, паўза, адлюстраванне (для PlayListDialog) не могуць выкарыстоўвацца, калі тэлетэкст УКЛЮЧАНЫ. Калі запіс пачынаецца па сігналу таймера пры ўключаным тэлетэксце, тэлетэкст будзе аўтаматычна адключаны. Таксама, выкарыстанне тэлетэкста адключаецца падчас запісу ці прайгравання.

***Заўвага**: Запісаныя праграмы захоўваюцца на далучаным USB-дыску. Па жаданні, можна захоўваць/капіраваць запісы на персанальным кампутары; тым не менш, гэтыя файлы нельга будзе прайграваць на кампутары. Вы можаце прайграць запісы толькі праз ваш ТВ.*

***Увага***

*не адключайце шнур пераменнага току падчас налады таймера USB-запісу ці непасрэдна ў працэсе выкарычтання USB-запісу.*

*- Калі адключаны шнур сілкавання пераменнага току:*

*- Настройка таймера USB-запісу адменена.*

## Запіс са зрухам па часе

Для пераключэння ў рэжым зруху па часе націсніце на кнопку ▮▮ (ПАЎЗА) падчас прагляду перадачы. У рэжыме зруху па часе перадача прыпыняецца і адначасова запісваецца на падлучаны дыск USB. Ізноў націсніце кнопку ▶ (ПРАЙГРАВАННЕ) для прагляду перапыненай праграмы з моманту, на якім прагляд быў спынены. На інфармацыйным банеры адлюструецца памер інтэрвалу зруху паміж рэальнай праграмай і праграмай са зрухам па часе.

Націсніце кнопку ■ (СТОП), каб спыніць запіс у рэжыме зруху па часе і вярнуцца да прамой трансляцыі.

Рэжым зруху па часе нельга выкарыстоўваць, знаходзячыся ў рэжыме радые.

Вы не можаце выкарыстоўваць функцыю хуткай перамоткі назад ў рэжыме зруху па часе перад тым, як рухаць прайграванне з дапамогай опцыі хуткай перамоткі наперад.

## Імгненны запіс

Націсніце кнопку ● (ЗАПІС), каб пачаць запіс падзеі адначасова з праглядам праграмы. Для запісу наступнай перадачы ў EPG можна яшчэ раз націснуць кнопку ● (ЗАПІС) на пульце дыстанцыйнага кіравання. У гэтым выпадку, на ЭМ (экранным меню) адлюструюцца запраграмаваныя падзеі для запісу. Націсніце кнопку ■ (СТОП), каб спыніць імгненны запіс. Падчас запісу недаступна пераключэнне на іншую праграму або крыніцу, а таксама прагляд медыя-браўзэра.

## Прагляд запісаных праграм

Націсніце кнопку **MENU**. Абярыце **Аглядальнік мультымедыя** і націсніце **OK**. Абярыце пункт **Бібліятэка запісаў і націсніце OK**. Будзе адлюстраваны экран **Бібліятэка запісаў**. Выберыце запісаны элемент з спісу (калі запіс ўжо зробленая) і націсніце **OK** для прагляду **Опцый прайгравання**.

### Даступныя опцыі прайгравання:

• Прайграванне з пачатку: Прайграванне запісанага кантэнту з пачатку.

• Аднаўленне: Аднаўленне прайгравання запісаў.

• Прайграванне з месца зупыну прайгравання: Зазначае месца прайгравання.

Націсніце кнопку ■ (СТОП), каб спыніць прайграванне і вярнуцца ў **Бібліятэку запісаў**.

## Канфігурацыя запісу

Абярыце пункт **Канфігурацыя запісу ў меню** Налады для канфігурацыі параметраў запісу.

**Фармат дыска:** Вы можаце выкарыстоўваць функцыю Фармат дыска для фарматавання далучанага дыска USB.

**ВАЖНА:** Звярніце ўвагу, што ўсе дадзеныя, якія захоўваюцца на USB-дыску, будуць страчаныя, і фармат дыска будзе канвертаваны ў FAT32, калі вы ўключыце гэтую функцыю. Калі Ваш USB дыск дрэнна працуе, вы можаце паспрабаваць адфарматаваць дыск USB. У большасці выпадкаў, фарматаванне дыска USB адновіць нармальную працу, аднак усе дадзеныя, якія захоўваюцца на USB-дыску, ў такім выпадку будуць страчаныя.

## Функцыі злучэння

### Падлучэнне тэлевізара да Хатняй сеткі

Функцыя падлучэння дазваляе падключыць тэлевізар да хатняй сеткі з дапамогай праваднога або бесправаднога злучэння. Вы можаце выкарыстоўваць дадзеную перадачу дадзеных па сетцы для падлучэння да інтэрнэт-парталу або для атрымання доступу да фатаграфій, відэа- і аўдыё-файлаў, якія захоўваюцца на серверы мультыммедыя, падлучаным да сеткі, і прайграваць / выводзіць іх на тэлевізары.

**Праваднное злучэнне**

Падключыце тэлевізар да мадэма / роўтара праз кабель LAN (не прыкладаецца). Абярыце **Тып сеткі як** Правадная прылада у меню **Налады сеткі і націсніце кнопку** OK для злучэння.

Націсніце жоўтую кнопку на пульце дыстанцыйнага кіравання для ўваходу ў меню " Налады". З дапамогай дадзенага меню Вы можаце праглядаць альбо змяніць такія налады, як IP-адрас.




**Бесправадное злучэнне**

Для падлучэння тэлевізара да хатняй сеткі беспровдоным спосабам проста выберыце **Тып сеткі як Бесправадная** прылада у меню **Налады сеткі і націсніце кнопку** OK. Тэлевізар пачне пошук даступных сетак. Абярыце патрэбную мову і націсніце **OK**. Дадзены тэлевізар мае убудаваную сістэму WLAN (бесправадная сетка перадачы дадзеных) і не мае патрэбы ў дадатковых прыладах для падлучэння да бесправадной сеткі.




Тэлевізар (убудаваная сістэма WLAN)

**Аб выкарыстанні функцыі падключэння**

Для вышэйшай якасці прагравання з правадным злучэннем павінны выкарыстоўвацца PC/HDD/Медыя-прагравальнік або любыя іншыя прылады, сумяшчальныя з DLNA 1.5.

Усталюйце на ПК праграму Nero Media Home для выкарыстання яго ў якасці сервера мультымедыя.

Падчас выкарыстання дадзенага тыпу бесправаднога падлучэння неабходна ўлічваць, што тэлевізар не можа ажыццяўляць падключэнне да сетак са схаваным ідэнтыфікатарам SSID.

### Усталёўка налад сеткі

Налады сеткі для тэлевізара ўключаюць параметры праваднога і бесправаднога злучэння. Пры падключэнні тэлевізара праз уваход ETHERNET абярыце **Тып сеткі** як **Правадная прылада**. Абярыце опцыю **Правадная прылада**, калі вы маеце намер падключыць тэлевізар да сеткі бесправадным спосабам.

Пасла выбару Тыпа сеткі націсніце **OK** для злучэння.

Вы можаце націснуць **ЖОЎТУЮ** кнопку, каб ажыццявіць пошук даступных бесправадных сетак для выканання бесправаднога злучэння. Адлюструецца спіс даступных сетак. Абярыце з спісу прыдатную сетку і націсніце **OK**.

Калі абраная сетка абаронена паролем, увядзіце правільны код. Таксама для ўводу пароля вы можаце выкарыстоўваць віртуальную клавіятуру.

Пачакайце, пакуль IP-адрас будзе адлюстроўваны на экране. Гэта азначае, што злучэнне ўстаноўлена.

Каб адключыцца ад сеткі, вылучыце пункт Тып сеткі і націсніце **OK**.

### Інфармацыя аб элементах меню

**Тып сеткі:** Тып сеткі можа быць абраны ў якасці правадных або бесправадных прылад,

у адпаведнасці з актыўным падключэннем да тэлевізара.

**Стан канфігурацыі:** У гэтым раздзеле адлюстроўваецца статус злучэння.

**IP-адрас:** Калі актыўнае злучэнне даступна, IP-адрас будзе адлюстроўвацца на гэтым участку. Калі вы жадаеце наладзіць перавагі IP-адрасу, націсніце ЗЯЛЁНУЮ кнопку каб пераключыцца ў пашыраны рэжым.

## Далучэнне да мабільнай прылады праз Wi-Fi

Калі ў вашай мабільнай прыладзе маецца функцыя WiFi, вы можаце падключыць тэлевізар праз роутер для атрымання доступу да кантэнту вашага прылады. Для гэтага мабільная прылада павінна мець адпаведнае праграмнае забеспячэнне сумеснага выкарыстання.

Падлучыце вашу мабільную прыладу з маршрутызатарам/мадэмам і затым актывізуйце праграмнае забеспячэнне для сумеснага доступу на сваёй мабільнай прыладзе. Затым выберыце файлы, якім вы хацелі б падзяліцца з тэлевізарам.

Калі злучэнне ўстаноўлена правільна, вы павінны зараз атрымаць доступ да агульных файлаў вашай мабільнай прыладзе праз медыя-аглядальнік (медыя-браўзэр) вашага тэлевізара.

Калі ласка, увядзіце меню медыя-аглядальнік Media Browser і выбару прылады прагравання будзе адлюстраваны. Вылучыце вашу мабільную прыладу і націсніце кнопку **OK**, каб працягнуць.

Калі даступны віртуальны пульт дыстанцыйнага кіравання, вы можаце запусціць дадзенае прыкладанне з сервера прыкладанняў пастаўшчыка вашай мабільнай прылады. Вы можаце кіраваць тэлевізарам з дапамогай бесправадной партатыўнай прылады, выкарыстоўваючы дадзенае прыкладанне. Для гэтага варта ўключыць функцыю **Віртуальны пульт дыстанцыйнага кіравання** у меню **Наладкі / Іншыя налады шляхам націску кнопкі** "Улева" **ці** "Управа". Падключыце тэлевізар і мабільную прыладу да адной і той жа сеткі і запусціце праграму.

***Заўвага**: Гэтая функцыя можа не падтрымлівацца некаторымі сотавымі тэлефонамі.*

## Выкарыстанне MIRACAST

Пры падключэнні да тэлевізара такой прылады, як сумяшчальны з Miracast смартфон або планшэтны ПК, вы можаце атрымліваць асалоду ад відэа ці аўдыё з прылады на вялікім экране тэлевізара і праз дынамікі.

1. Пераключыце крыніцу тэлевізара на "Дубляванне экрана".
2. Уключыце функцыю Miracast на прыладзе, якая падтрымлівае Miracast, і выканайце падключэнне да тэлевізара.

(Малюнак на экране тэлевізара будзе змяняцца ў адпаведнасці з дзеяннямі, выкананымі на прыладзе).

***Заўвага**: гэтая функцыя можа выкарыстоўвацца толькі ў тым выпадку, калі прылада падтрымлівае Miracast. Працэсы пошуку і падключэння адрозніваюцца ў адпаведнасці з выкарыстоўваемай праграмай. Мабільныя прылады на платформе Android павінны мець версію ПА V4.1.2 і вышэй.*

## Выкарыстанне абслугоўвання DLNA-сеткі

DLNA стандарт дазваляе праглядаць і прайграваць фатаграфіі, музыку і відэа, якія захоўваюцца ў медыя-серверы, сумяшчальным з DLNA, які далучаны да вашай хатняй сеткі.

**Усталюйце праграму Nero Media Home (для ПК або наўтбукаў) ці адпаведную праграму для абмену файламі (для іншых прылад)**

Спасылка на запампоўку ПА Nero MediaHome (толькі для ПК): http://www.nero.com/mediahome-tv

DLNA функцыя не можа быць выкарыстана, калі серверная праграма не ўсталяваная на вашым камп'ютары. Калі ласка, падрыхтуйце камп'ютар з дапамогай праграмы Nero Media Home, якая прыкладаецца.  Усталюйце на мабільную прыладу адпаведнае прыкладанне.

**Уключыце функцыю Media Renderer**

Націсніце кнопку **MENU**. Абярыце Налады і націсніце кнопку **OK**. Уключыце функцыю **Media Renderer**.

**Далучэнне да правадной або бесправадной сеткі**

Для атрымання падрабязнай інфармацыі вывучыце папярэднія часткі.

**Прайграванне агульных файлаў з дапамогай медыя-аглядальніка.**

Абярыце **Медыя-браўзэр з галоўнага меню і націсніце** OK. Медыя-браўзэр будзе адлюстраваны.

**Падтрымка DLNA даступная толькі ў рэжыме** Прагляду папак. Каб уключыць рэжым папкі, перайдзіце на ўкладку **Налады ў галоўным меню медыя-браўзэра і націсніце кнопку** OK. Абярыце **Стыль** прагляду **і ўсталюйце опцыю** Прагляд па папкам. Націсніце **BACK**, каб перайсці да верхняга меню. Калі ласка, абярыце пажаданы тып носьбіта і націсніце **OK**.

Калі канфігурацыі абмену ўстаноўлены правільна, наступнае экраннае меню выбару прылады будзе адлюстроўвацца пасля выбару пажаданага тыпу носьбіта. Выберыце сервер мультымедыя або сетку, якую патрабуецца падлучыць, і націсніце **OK**.

Файлы субтытраў не працуюць, калі вы глядзіце відэа з сеткі праз DLNA.

Вы можаце падключыць толькі адзін тэлевізар з DLNA да той жа сеткі. Калі ўзнікае праблема з DLNA сеткай, калі ласка, ўключыце / выключыце тэлевізар. Рэжымы Trick і jump не падтрымліваюцца з функцыяй DLNA.

Могуць быць некаторыя камп'ютары, якія не могуць быць у стане выкарыстаць DLNA функцыі ў сувязі з наладамі бяспекі адміністратара (напрыклад, ПК бізнэс-класа).

## Інтэрнэт-партал

Функцыя партала дадае ў ваш тэлевізар функцыю, якая дазваляе падлучацца да сервера ў Інтэрнэце і праглядаць кантэнт, які прадстаўляецца гэтым серверам праз Інтэрнэт-злучэнне. Функцыя партала дазваляе прайграваць музыку, відэа, кліпы або вэб-кантэнт з пэўнымі ярлыкамі. Сеткавае тэлебачанне забяспечвае доступ да шматлікіх паслуг у кожнай краіне. Магчымасць прайгравання кантэнту бесперапынна залежыць ад хуткасці злучэння, якая прадастаўляецца пастаўшчыком інтэрнэт-паслуг.

Націсніце кнопку “🌐” на пульце дыстанцыйнага кіравання і адкрыйце старонку інтэрнэт-партала. На экране партала вы ўбачыце піктаграмы доступрных прыкладанняў і паслуг. Для выбару патрабаванага прыкладання ці паслугі выкарыстоўвайце навігацыйныя кнопкі на пульце дыстанцыйнага кіравання. Вы можаце праглядаць патрабаваны кантэнт шляхам націску кнопкі OK пасля ажыццяўлення выбару. Націсніце кнопку **НАЗАД /ЗВАРОТ** для звароту да папярэдняй экраннай старонцы або кнопку ВЫХАД для выхаду з рэжыму інтэрнэт-партала

***Заўвага***: *Магчымае праблемы, якія павязаныя з дадаткам, могуць быць выкліканыя пастаўшчыком паслуг кантэнту.*

*ЗАЎВАГА:*

*• Так як сеткавае тэлебачанне з'яўляецца анлайнавай сістэмай, яно можа быць зменена з цягам часу для больш поўнага задавальнення сваіх мэтам.*

*• З цягам часу некаторыя паслугі могуць быць дададзены, зменены або адключаны.*

*• Некаторыя вэб-сайты могуць не падыходзіць для экрана тэлевізара і могуць не адлюстроўвацца правільна.*

*• Вы не можаце запампоўваць і захоўваць файлы, а таксама ўсталёўваць ўбудовы.*

***АБМЕЖАВАННЕ АДКАЗНАСЦІ***

*Карпарацыя SHARP не нясе адказнасці за кантэнт і якасць кантэнту, які прадастаўляецца пастаўшчыком.*

## Netflix

Netflix з'яўляецца пастаўшчыком струменевага мультымедыя ў інтэрнэце па запыце. Націсніце кнопку **NETFLIX** на пульце дыстанцыйнага кіравання для запуску прыкладання.

## Сістэма HBBTV

HbbTV (Hybrid Broadcast Broadband TV) уяўляе сабой новы стандарт, які інтэгруе ТБ паслугі, якія прадстаўляюцца праз эфір з паслугамі, якія прадстаўляюцца праз шыракапалоснае вяшчанне, а таксама дазваляе атрымаць доступ да Інтэрнэт паслуг для спажыўцоў, якія выкарыстоўваюць падключаныя тэлевізары і тэлевізійныя прыстаўкі. Паслугі, якія аказваюцца праз HbbTV уключаюць традыцыйнае вяшчаннетэлевізійных каналаў, дадатковыя паслугі, відэа-па-запыце, EPG, інтэрактыўную рэкламу, персаналізацыю, галасаванне, гульні, сацыяльныя сеткі і іншых мультымедыйныя дадаткі.

HbbTV дадаткі даступныя на каналах, на якіх пра гэта сігналіуе вяшчальнік (у цяперашні час розныя каналы на Astra вяшчаюць дадаткі HbbTV). Тэлекампанія адзначае адзін дадатак, як "аўтазапуск", і ён запускаецца на платформе аўтаматычна. Дадаткі аўтазапуску, як правіла, запускаюцца з дапамогай невялікай чырвонай кнопкі, якая паведамляе карыстальніку, што ёсць HbbTV дадаткі на гэтым канале. Націсніце чырвоную кнопку, каб адкрыць старонку дадатку. Чырвоная кнопка адлюстроўваецца некаторы час, а затым можа знікнуць. Карыстальнік павінен націснуць чырвоную кнопку, каб адкрыць старонку прыкладання. Пасля таго, як старонка адлюстроўваецца, вы можаце вярнуцца да зыходнага стану чырвонай кнопкі, націснуўшы на чырвоную кнопку яшчэ раз. Вы можаце перамыкацца паміж рэжымам чырвонай кнопкі і рэжымам поўнага карыстальніцкага інтэрфэйсу дадатку з дапамогай націску на чырвоную кнопку. Варта адзначыць, што магчымасць пераключэння чырвонай кнопкай забяспечваецца дадаткам і некаторыя праграмы могуць паводзіць сябе па-рознаму.




Выява x: Паслугі з ужываннем чырвонай кнопкі (ўзята з спецыфікацыі HbbTv)

Калі вы пераключыліся на іншы канал, у той час як прымяняеце HbbTV (альбо ў рэжыме чырвонай кнопкі або поўным карыстальніцкім рэжыме), можа адбыцца наступнае:

- Прыкладанне можа працягнуць працу.
- Праца прыкладання можа быць спынена.
- Прыкладанне можа быць спынена, а іншая чырвонай кнопка аўтазапуску праграмы можа быць запушчана.

HbbTV дазваляе дадаткам атрымліваць сігнал шыракапалоснага вяшчання або звычайнай трансляцыі. Вяшчальнік можа дазволіць абодва спосабы або адзін з іх. Калі платформа не мае аператыўнай шыракапалоснай сувязі, платформа можа запускаць дадаткі, якія перадаюцца праз звычайнае вяшчанне.

Дадаткі аўтазапуску чырвонай кнопкай звычайна ўтрымліваюць спасылкі на іншыя дадаткі. Прыклад гэтага паказаны ніжэй. Затым карыстальнік можа перайсці да іншых дадаткаў з дапамогай прадстаўленых спасылак. Дадаткі павінны прадстаўляць спосаб спыніць сябе, як правіла, для гэтага выкарыстоўваецца кнопка 0.




Малюнак a: Дадатак пачатковага радку




Малюнак b: EPG дадатак, вяшчанне відэа паказваецца ў левым ніжнім куце, можа быць спынены шляхам націску 0.

HbbTV дадаткі з выкарыстоўваюць кнопкі на пульце дыстанцыйнага кіравання для ўзаемадзеяння з карыстальнікам. Калі HbbTV дадатак запушчаны, кантроль над некаторымі кнопкамі перахопліваецца дадаткам. Напрыклад, лічбавы выбар канала можа не працаваць на тэлетэкставых дадатках, дзе лічбы паказваюць старонкі тэлетэксту.

HbbTV патрабуе ад платформы патокавай перадачы аўдыё і відэа. Ёсць мноства дадаткаў, якія забяспечваюць VOD (відэа па запыце) і дадатковыя сэрвісы тэлебачання. Карыстальнік можа выкарыстоўваць прагравание, паўзу, стоп, перамотку наперад, перамотку назад і клавішы на пульце дыстанцыйнага кіравання, каб узаемадзейнічаць з аўдыё і відэа зместам.

***Заўвага**: Вы можаце ўключыць або адключыць гэтую функцыю з меню "Іншыя налады" ў меню "Налады". Дадзеная функцыя не даступная для мадэляў Вялікабрытаніі.*

## Устараненне непаладак пры далучэнні

### Бесправадная сетка не даступная

Пераканайцеся, што брандмаўар сеткі дазваляе далучаць бесправадныя тэлевізары. Калі бесправадная сетка не працуе належным чынам, паспрабуйце выкарыстоўваць ў вашым доме правадную сетку. Звярніцеся да раздзелу праваднога злучэння для атрымання дадатковай інфармацыі аб працэсе.

Калі сеткавае тэлебачанне не працуе, спачатку праверце мадэм (маршрутызатар). Калі маршрутызатар працуе належным чынам, праверце інтэрнэт-злучэнне вашага мадэму.

Паспрабуйце паўторна выканаць пошук бесправадных сетак, выкарыстоўваючы экран меню "Налады сеткі".

- Хуткасць перадачы дадзеных адрозніваецца ў залежнасці ад адлегласці і колькасці перашкод паміж прыладамі, канфігурацыі гэтых прыладаў, радыёхвалёвых умоваў, лініі руху, і прыладаў, якія Вы выкарыстоўваеце. Перадача таксама можа быць абрэзана або адключана ў залежнасці ад радыёхвалёвых умоваў DECT тэлефонаў, або любой іншай WiFi 11b тэхнікі. Стандартныя значэнні хуткасці перадачы з'яўляюцца тэарэтычнымі максімальнымі значэннямі для бесправадных стандартаў. Яны не з'яўляюцца фактычнай хуткасцю перадачы дадзеных.
- Бесправадны сеткавы адаптар падтрымлівае мадэмы тыпу 802.11 a,b,g і n. Настойліва рэкамендуецца каб вы выкарыстоўвалі пратакол сувязі IEEE 802.11n для таго, каб пазбегнуць магчымых праблем пры праглядзе відэа.
- Вы павінны змяніць SSID мадэма, калі ёсць іншыя мадэмы вакол з такім жа SSID. Інакш Вы можаце мець праблемы са злучэннем.

Выкарыстоўвайце правадное злучэнне, калі Вы адчуваеце праблемы з бесправадной сувяззю.

### Павольнае злучэнне

Глядзіце кіраўніцтва па эксплуатацыі вашага бесправаднога мадэма для атрымання інфармацыі аб унутранай зоне абслугоўвання, хуткасці злучэння, якасці сігналу і іншых параметраў. Вы павінны мець высокую хуткасць далучэння для вашага мадэма.

### Зрыў падчас прагравання або павольныя адказы

Вы можаце паспрабаваць наступнае ў такім выпадку:

Захоўвайце дыстанцыю не менш за тры метры ад мікрахвалевых печаў, мабільных тэлефонаў, Bluetooth-прылад або любых іншых Wi-Fi-сумяшчальных прылад. Паспрабуйце змяніць актыўны каналы на маршрутызатары WLAN.

# Выкарыстанне рэжыма 3D

Гэты прадукт падтрымлівае магчымасць прагляду 3D-кантэнту з такіх прылад, як спадарожнікавы прымач высокага пашырэння ці прайгравальнік Blu-ray праз уваход HDMI, ПК,YPBPR, USB ці даступныя крыніцы вяшчання. Для прагляду кантэнту ў 3D неабходна выкарыстоўваць спецыяльныя 3D-ачкі.

## Меры засцярогі

**У мэтах Вашай бяспекі ўважліва вывучыце дадзеныя меры засцярогі перад выкарыстаннем функцыі 3D.**

- Выкарыстанне 3D-ачкоў не рэкамендуецца дзецям ва ўзросце да 6 гадоў.
- Вы можаце адчуваць дыскамфорт, галаўны боль і галавакружэнне падчас прагляду тэлевізара ў рэжыме 3D. Калі Вы выпрабоўваеце такія сімптомы, неабходна зняць 3D-ачкі і спыніць прагляд у рэжыме 3D.
- Не ажыццяўляйце прагляд тэлевізару ў рэжыме 3D на працягу доўгага часу. Перыядычна рабіце перапынкі. Падчас прагляду, калі Вы будзеце адчуваць дыскамфорт - празмернае напружанне вачэй, галаўны боль або млоснасць, зніміце 3D-ачкі і спыніце прагляд тэлевізару ў 3D-рэжыме. Калі дыскамфорт ня знікле, звярніцеся да ўрача.
- Рэкамендуецца, каб дарослыя правяралі стан дзяцей, у тым ліку падлеткаў, таму што яны могуць быць больш адчувальныя да ўздзеяння прагляду ў рэжыме 3D. Калі яны адчуваюць аналагічныя вышэй зазначаныя віды дыскамфорту, яны павінны неадкладна спыніц прагляд у рэжыме 3D.
- Не выкарыстоўвайце 3D-акуляры для іншых мэтаў, напрыклад, у якасці сонечных ачкоў або ахоўных ачкоў.
- Не перамяшчайцеся з месца на месца падчас прагляду ў 3D і нашэння акуляр, таму што ваша глядзельнае ўспрыманне зменіцца, і Вы можаце сутыкнуцца з аб'ектамі, што можа прывесці да атрымання траўмаў.
- Выкарыстоўвайце толькі 3D-ачкі, якія ўваходзяць у камплект пастаўкі.
- Калі будзе адбывацца мігаценне экрана пры праглядзе тэлевізара ў рэжыме 3D ва ўмовах дрэннага асвятлення, неабходна выключыць або адрэгуляваць святло.
- У выпадку выкарыстання слухавак не рэгуляваць гучнасць да занадта высокага ўзроўню, паколькі гэта можа прывесці да часовай ціпастаяннай страты слыху.

### ⚠ *УВАГА - 3D-выявы*

- Уважліва прачытайце правілы тэхнікі бяспекі, каб прадухіліць пашкоджанне прылады і забяспечыць Вашу ўласную бяспеку.
- У выпадку адчування дыскамфорту падчас прагляду тэлевізару ў рэжыме 3D і выкарыстання 3D-акуляр, звярніцеся да адмыслоўца па падборы акуляр.

Наступныя асобы не павінны выкарыстоўваць 3D-рэжым:

- цяжарныя жанчыны, пажылыя людзі, людзі з сардэчнымі захворваннямі, а таксама людзі, надзвычайна схільныя да млоснасці.
- Пры праглядзе ў рэжыме 3D варта быць у курсе, якія прадметы знаходзяцца вакол Вас. Не ажыццяўляйце прагляд у месцы, дзе знаходзяцца крохкія прадметы.
- Не ўжывайце аэразольныя чысцячыя сродкі на паверхні 3D-акуляр. Гэта можа прывесці да абескаляроўвання і расколін і можа выклікаць расслаенне экрана.
- Пераканайцеся, што тканіна для чысткі мяккая і не ўтрымлівае ніякіх староннiх рэчываў або пылу. Выкарыстанне бруднай тканіны можа пашкодзіць Вашы 3D-акуляры.
- Не кідайце і не згінайце 3D-акуляры.
- Калі дыяпазон прыёма не адпавядае зазначанаму дыяпазону, прагляд 3D-відэа на экране будзе немагчымы.

### ⚠ Папярэджанне пра шкоду для здароўя! - 3D-выявы

- Пры праглядзе 3D-выяў варта пакінуць адлегласць паміж вамі і экранам, якая перавышае шырыню экрана не меньш як у два разы, і экран павінен знаходзіцца на ўзроўні вачэй.
- Дзеці ва ўзросце да 5 гадоў павінны ўтрымлівацца ад прагляду 3D. Гэта можа паўплываць на развіццё іх зрока.

**Папярэджанне пра магчымасць прыступу фотасенсітыўнай эпілепсіі**

- Калі Вы або член Вашай сям'і быў хворы эпілепсіяй або меў прыступы, калі ласка, пракансультуйцеся з урачом, перш чым глядзець тэлевізар у 3D-рэжыме. Цалкам магчыма, што некаторыя людзі могуць адчуваць прыступ эпілепсіі пры ўздзеянні пэўных умоў, у тым ліку ў выніку мігання святу або малюнкаў у тэлевізары ці відэагульнях.
- Часам некаторыя сімптомы могуць узнікаць у нявызначаных ўмовах, нават калі ў Вас не было выпадкаў захворвання вышэйзазначанымі балезнямі. У гэтых выпадках пры з'яўленні любога з наступных сімптомаў неадкладна спыніце прагляд тэлевізара ў рэжыме 3D і звярніцеся да ўрача: парушэнне глядзельнага ўспрымання,

